№ 195 (317)

Субота, 1 лістапада 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**



Сонца

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 7.03 | 16.24 |
| Магілёў | 6.58 | 16.27 |
| Гомель | 6.51 | 16.28 |
| Мінск | 7.09 | 16.38 |
| Гродна | 7.23 | 16.53 |
| Брэст | 7.20 | 16.56 |

Першая квадра 7 лістапада



Да 115-ых угодкаў Якуба Коласа

# На паклон да песняра

*Ляжыць шырокая дарога,*
*Вакол прастор, і я іду.*
*Іду, нясу пачуццяў многа*
*І ясных думак чараду.*

**Якуб Колас.**

Амаль у цэнтры Мінска, побач з шумнай плынню Скарынаўскага праспекта, сярод будынкаў Акадэміі навук знаходзіцца запаведны куточак беларускай сталіцы. Пад зямлёй грукоча метро, навокал спяшаюцца людзі і машыны... А тут шумяць сосны, чуюцца птушыныя галасы, цешаць людскае вока непаседы вавёркі.

*Стаіць мая хата між хвой кучаравых,*
*І купіна жыта на клумбе пры ёй.*
*Свая ў мяне пожня, і дрэўцы, і травы,*
*Пляцоўка і двор свой, і я сабе свой.*

Гэтак лагодна і душэўна пачынаецца верш Якуба Коласа "З майго летапісу". Любіў пясняр свой родны Мінскі кут, як і той незабыўны, дзе першы раз ступіў па зямлі, адкуль пайшоў у вялікі свет. Напачатку на гэтым месцы стаяла драўляная хата, у якую пасля вайны пасяліўся народны паэт, пазней з'явілася цагляная прыбудова. А да 70-годдзя песняра быў узведзены двухпавярховы цагляны дом.

Кожны, каму пашчасціла хоць раз пабыць тут, сустрэцца з мудрым чалавечным гаспадаром, застаўся навекі ўдзячны лёсу. Найчасцей завітвалі да дзядзькі Якуба яго калегі па творчасці, беларускія літаратары.

Успамінае народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін:

*"Упершыню я асабіста сустрэўся з Якубам Коласам у 1949 годзе. Дагэтуль я бачыў яго толькі на нашых пісьменніцкіх сходах, пленумах, чуў выступленні, але непасрэдна гутарыць з ім не даводзілася. І вось аднойчы ўлетку група маладых пісьменнікаў — Антон Бялевіч, Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Янка Брыль, Аляксей Русецкі, Анатоль Вялюгін, Іван Грамовіч і я — наведала Якуба Коласа.*

*Прызнаюся шчыра, што спачатку я адчуваў некаторае расчараванне ад сустрэчы. Праходзіць паўгадзіны — размова пра жыта, яблыні, спёку, засуху; мінае гадзіна — Якуб Колас расказвае пра тое, што ён бачыў у вёсцы, куды два дні назад наведаўся, як там жывуць людзі, што яны гавораць, пра што думаюць.*

*Пад канец сустрэчы мне не хацелася ўжо размовы на спецыяльна літаратурныя тэмы. Я зразумеў: усё, што было сказана за час сустрэчы, не было выпадковасцю. Проста, без надакучлівых павучанняў Якуб Колас вучыў нас самаму галоўнаму: як пісьменнік павінен ставіцца да жыцця, да людзей".*

Незабыўным стаўся дзень той для ўсіх удзельнікаў паходу. Мікола Аўрамчык свой успамін выказаў вершам:

*Здаецца нават,*
*Што дзвярны праём тут павузеў,*
*Калі цяпер*
*Сюды ўваходзіш са двара...*
*Я не прывыкну ўсё ніяк,*
*Што тут цяпер музей*
*І што самога*
*Тут няма гаспадара.*
*А помніце, сябры,*
*Як некалі ў спякотны дзень*
*Сюды*
*Мы ў госці ім запрошаны былі,*
*Як бедаваў тады паэт,*
*Што зноў стаіць сухмень,*
*Што нівы нават ні расінкі не пілі?*
*Прайшлі дажджы...*
*З двара чуваць людскія галасы...*
*Як быццам выйшаў ён*
*Падыхаць водарам сасны,*
*Палюбавацца,*
*Як закрасавалі каласы*
*Ім вырашчанага*
*Гатунку збажыны.*
*Барометр на стале*
*Прарочыць ясны дзень з начы...*
*Ліст, не дапісан ім...*
*Я ў сэрцы ўсё збярог,*
*Як той юнак,*
*Якому*
*Жураўліныя ключы*
*Ён уручыў*
*І жураўлінае пяро.*

Цеплынёй і клопатам атуляў пясняр кожнага. Коласу пісалі, да яго ішлі. Прасілі дапамогі ці проста гутарылі як з мудрым сардэчным чалавекам.

Дом народнага паэта і цяпер, набыўшы годнасць музея, гасцінна сустракае людзей. Праходзячы з аднаго пакоя ў другі, яны ўважліва аглядаюць матэрыялы, што раскрываюць слаўны шлях вялікага беларуса.

З заміраннем сэрца пераступаюць наведвальнікі парог рабочага кабінета, дзе ўсё захавана ў такім выглядзе, як і пры жыцці гаспадара. На стале — пісьмовыя прылады, гадзіннік, барометр, бюст Пушкіна... Тут ён няўтомна працаваў над сваімі творамі. Адзін з іх, паэма "На шляхах волі", застаўся незакончаным...

На рабочым стале — недапісаны ліст у Маскву літаратару Яўгену Мазалькову, датаваны 13 жніўня 1956 года — днём смерці песняра.

*"Вы павінны расцэньваць мяне не як паэта, пісьменніка,* — пісаў Якуб Колас, — *а як работніка канцэлярыі ў яе розных галінах. Гэта мяне ўзносіць і зніжае. Я ж паэт на 50%. А дзе астатнія 50 працэнтаў, Вы, думаю, ведаеце..."*

І нам вядома, якім справам аддаваў палову сваёй душы Якуб Колас. Ён быў нястомным грамадскім дзеячам. Вялікія гуманістычныя ідэалы пясняр сцвярджаў не толькі радкамі твораў, але і штодзённай чарнавой арганізатарскай работай.

Каля сарака гадоў мінула з таго часу, як расчыніў свае дзверы Літаратурны музей Якуба Коласа (цяпер — Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа). Тры экспазіцыі за гэты перыяд перажыў ён. Тысячы людзей пабывалі тут...

...Коласава сядзіба. Коласаў дом. Святымі сталі для нас гэтыя словы. Іх мы прамаўляем з пашанаю і ўзрушэннем. Каб сэрцам адчуць жыццёвую мудрасць і чалавечую прастату, ідуць сюды людзі.

*Два коласы — дзве праўдзівыя песні*
*Поплеч, як сёстры, ідуць у свет...*
*Колькі вы радасці людзям прынеслі,*
*Колас жытнёвы і Колас-паэт!*

**Р.Тармола.**

**Іван КУРБЕКА,**
**супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.**

*У гэтым доме, які сёння з'яўляецца музеем, жыў і шчыраваў на творчай ніве Якуб Колас.*

## Якуб КОЛАС

*Мы маўчалі, як нямыя,*
*Мы ўздыхалі ўсё цяжэй,*
*Грызлі думкі нас благія,*
*Слёзы падалі з вачэй.*

*Мы хадзілі, як уночы,*
*Сярод мукі, сярод зла;*
*Туманы сляпілі вочы,*
*Цемра хмар на нас лягла.*

*З нас нямала жартавалі,*
*Той нас крыўдзіў, гэты сек.*
*Годнасць нашую таптаві,*
*У нас заплёван чалавек.*

*Хай святло навукі яснай*
*Заблішчыць, як сонца ўсход,*
*Няхай родным словам шчасна*
*Загаворыць наш народ.*

Адным абзацам

## Са смецця валакна не атрымаеш

На мяжы поўнага спынення вытворчасці з-за недахопу сыравіны балансуе сёлета Красненскі льнозавод Маладзечанскага раёна. Справа ў тым, што ў адрозненне ад папярэдніх гадоў мала паступае трасты з гаспадарак суседніх раёнаў. Калі ў лепшыя гады ў дзень прымалі да 1 тысячы тон лёну, то цяпер будзе добра, калі такую ж колькасць набяруць нават за тыдзень. Да таго ж лічаныя машыны прывозяць цяпер сыравіну вельмі нізкай якасці, засмечаную рознымі травамі. Атрымаць з такой ільнотрасты стандартнае валакно будзе проста праблематычна, а значыць, у далейшым зноў узнікнуць праблемы з яго рэалізацыяй. Але ж наша эканоміка пабудавана пакуль такім чынам, што трэба выдаваць "на гара" прадукцыю, не зважаючы на затраты і канчатковыя вынікі. З-за бруднай сыравіны ледзь вытрымліваюць узросшыя перагрузкі электрарухавікі сістэмы выцяжной вентыляцыі. Нягледзячы на страшэнныя шум і пыл, людзі на заводзе працягваюць працаваць, атрымліваючы часцяком замест сціплай зарплаты на ўзроўні мінулага года прасціны, рушнікі, іншую бялізну. Сапраўды, з нашых безадказных працаўнікоў яшчэ можна будзе доўга вяроўкі віць, бо частка кудзелі, вырабляемай на гэтым прадпрыемстве, ідзе якраз на выраб гэтага спецыфічнага тавару. І ёсць беларускія вяроўкі, напэўна, самыя моцныя ў свеце.

## Прымадона сцэны ў новым амплуа

Свой сёмы па ліку тэатральны сезон адкрыў Мінскі абласны драматычны тэатр прэм'ерай. Спектакль па п'есе А.Астроўскага "Апошняя ахвяра", прайшоўшы з вялікім поспехам, стаў першым рэжысёрскім дэбютам народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Акрамя ўдзелу ў пастаноўцы праслаўлены дзеяч сцэны працягне і ў новым сезоне выкладаць маладым артыстам МАДТа курс сцэнічнага майстэрства. Гэты беларускі тэатр падрыхтаваў для паказу гледачам яшчэ спектаклі "Чорная нявеста", "Вар'яцкі дзень, ці Два плюс два", "Восем закаханых жанчын", "Двое на арэлях", працягне ставіць пастаноўкі для дзяцей, выязджаць з гастролямі ў іншыя гарады і, што самае прыемнае, арыентавацца ў сваёй дзейнасці на п'есы айчынных аўтараў. У планах маладога калектыву таксама арганізацыя і шырокі ўдзел у правядзенні ўжо традыцыйнага фестывалю тэатральнага майстэрства "Маладзечанская сакавіца-98".

**Уладзімір ШЫК.**

Юбілеі

## Ветэраны збіраюць сяброў

Напружаным выдаўся гэты тыдзень для вядомага ў мінулым футбаліста Міхаіла Мустыгіна, якому споўнілася 60 гадоў. Праўда, клопаты былі прыемнымі: вярнуўшыся з Масквы, дзе Міхаіл Міхайлавіч атрымаў узнагароду ад прэзідэнта Расіі ў сувязі са 100-годдзем айчыннага футбола, ён і дома акунуўся ў святочную атмасферу.

Першымі юбіляра павіншавалі прадстаўнікі Міжнароднага фонду ветэранаў беларускага футбола, затым кіраўніцтва Беларускай федэрацыі футбола ўшанавала яго і Эдуарда Зарэмбу, які хутка таксама перасягне 60-гадовы рубеж. А 1 лістапада абодвух імянінnікаў будуць віншаваць прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, спартыўнага таварыства "Дынама", сябры-ветэраны, дзеючыя футбалісты.

Паводле слоў прэзідэнта ветэранскага фонду Леаніда Федаровіча, жаданне павіншаваць выдатных майстроў скуранога мяча выказалі нават аматары футбола з далёкага Узбекістана, якія падрыхтавалі віноўнікам урачыстасці шэраг сюрпрызаў. А іх аднаклубнік па "бронзаваму" складу мінскага "Дынама" Эдуард Малафееў сказаў, што ён проста абавязаны быць у гэты дзень у Мінску.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БелТА.**

## Погода

1 и 2 ноября на территории республики сохранится облачная с прояснениями погода. 1 ноября преимущественно без осадков, местами туман, ночью слабый гололед; 2 ноября на большей части территории мокрый снег. Температура ночью 1 ноября -3...+2, днем +2...+7; 2 ноября в течение суток +3...-2.

Острый вопрос

## Состоятся ли массовые акции протеста?

Днями состоялся внеочередной пленум профсоюза работников радиоэлектронной промышленности, который констатировал катастрофическое состояние отрасли. Он принял решение: если президентом и правительством в первой декаде ноября не будут приняты срочные меры, то 20 ноября в Минске и во всех областных центрах могут пройти митинги протеста, а в декабре — общереспубликанская предупредительная забастовка.

Это решение поддержал и Республиканский совет профсоюза работников автосельхозмаша на заседании своего президиума. При этом было отмечено, что руководством республики до настоящего времени не решены вопросы, поставленные трудящимися промышленности на митинге протеста, состоявшемся в апреле 1997 года. Так, до сих пор не рассмотрено основное требование по созданию необходимых условий для стабильной работы промышленных предприятий, но решен вопрос по отмене нормативных актов, направленных на ограничение заработной платы. На государственном радио и телевидении закрыт эфир для трудящихся и профсоюзных лидеров, так и не произошла встреча президента с делегацией трудящихся промышленности.

Такая политика властей вынуждает профсоюзы промышленности идти на организованные массовые акции протеста в защиту своих прав — прав рабочего человека.

**Пресс-центр Белорусской независимой ассоциации профсоюзов промышленности.**

Задумайцеся...

## Чаму мы ледзь зводзім канцы з канцамі?

Чаму мы ледзь-ледзь зводзім канцы з канцамі? Чаму такія маленькія ў нас пенсіі і зарплата?

Адказ на гэта пытанне можна знайсці ў праекце бюджэта на новы год. З яго яскрава відаць, як дзяржава абдзірае свой народ. Вось толькі некалькі лічбаў. Так, на культуру, мастацтва і кінематаграфію мяркуецца выдзеліць 600 мільярдаў 540 мільёнаў рублёў, на жыллёва-камунальную гаспадарку — 113 мільярдаў 686 мільёнаў рублёў. А вось на ўтрыманне ўнутраных войскаў выдзяляецца 881 мільярдаў 900 мільёнаў рублёў — значна болей, чым на культуру. Толькі на ўтрыманне крымінальна-выканаўчай сістэмы мяркуецца выдаткаваць адзін трыльён 197 мільярдаў 600 мільёнаў рублёў — у два разы болей, чым на культуру.

У цэлым праваахоўныя органы атрымаюць 8 трыльёнаў 816 мільярдаў 968 мільёнаў рублёў, на нацыянальную абарону плануецца выдзеліць 5 трыльёнаў 971 мільярдаў 814 мільёнаў рублёў, органы дзяржаўнага і мясцовага кіравання атрымаюць 3 трыльёны 535 мільярдаў 547 мільёнаў рублёў. У суме гэта 18 трыльёнаў 324 мільярдаў 329 мільёнаў рублёў.

А цяпер параўнайце сумы: 18 трыльёнаў 324 мільярдаў 329 мільёнаў рублёў на ўтрыманне сілавікоў і начальства і 600 мільярдаў 540 мільёнаў рублёў на культуру і 113 мільярдаў 686 мільёнаў на жыллёва-камунальную гаспадарку. Падлічыце, у колькі разоў болей атрымаюць сілавікі і начальства, чым камунальная гаспадарка. Ды каб на апошнюю дабавіць хоць маленькі кавалачак, узяўшы з сілавікоў хоць дзесятую частку, дык мы, відаць, маглі б наогул не плаціць за кватэру і ваду. Але ж не, будуць "драць апошнія сокі" з пенсіянераў і насельніцтва і траціць вялікія грошы на закупку гумавых дубінак і металічных шчытоў, каб збіваць дэманстрантаў, якія скардзяцца на цяжкае жыццё.

У праекце бюджэту на новы год прадугледжваецца падвоіць асігнаванні на ўтрыманне праваахоўных органаў і службаў бяспекі прэзідэнта. Так, на ўтрыманне Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце запрошана 99 мільярдаў 400 мільёнаў рублёў, на службу бяспекі прэзідэнта — 41 мільярд 800 мільёнаў рублёў. У суме — 141 мільярдаў 200 мільёнаў рублёў, ці болей, чым выдзяляецца на ўсю жыллёва-камунальную гаспадарку. Калі б сродкі, якія пойдуць на службу бяспекі прэзідэнта, ды перадаць камунальнай гаспадарцы, тады, мабыць, абышлося б і без павелічэння платы за жыллё і некаторыя камунальныя паслугі.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Спорт

## Бокс – чемпионат мира

**Сергей Ляхович — приятное исключение в белорусской команде. Как оазис в пустыне...**

В столице Венгрии, Будапеште, завершился 9-й чемпионат мира по боксу. Беларусь в нем представляли 9 боксеров: В.Метелев (51 кг), С.Никитин (57 кг), С.Острошапкин (60 кг), С.Быковский (63,5 кг), В.Мезга (65 кг), С.Савицкий (75 кг), С.Крупена (81 кг), С.Дычков (91 кг) и С.Ляхович (свыше 91 кг), руководимые олимпийским чемпионом Вячеславом Яновским.

К сожалению, после первого круга семеро наших боксеров выбыли из дальнейших соревнований. Лишь Сергей Савицкий и Сергей Ляхович выиграли свои бои.

Однако Сергей Савицкий уступил представителю Армении Эмиштару Венисяну. Все надежды остались только на Сергея Ляховича, который в упорном поединке оказался сильнее казаха Серика Умирбекова.

В полуфинале Сергея ждал грузин Георгий Канделаки. Превосходство грузина было явным, и шансы на победу у белоруса были невелики. Канделаки бил сильнее и вышел в финал, где разобрался с кубинцем А.Рубалкоба. А Сергею Ляховичу досталась бронзовая медаль.

На фоне такого неудачного выступления белорусских боксеров — "вылет" семерых после первого этапа — выступление Сергея Ляховича явилось для белорусских любителей бокса оазисом в пустыне.

**Алексей ЖУРАВЕЛЬ.**

Рыгор КЛІШЭВІЧ

## На магіле бацькоў

*Я когда-то умру —*
*Мы когда-то всегда умираем...*
**В.Высоцкий.**

*Я таксама аднойчы памру,*
*Застануцца ўнукі і дзеці.*
*А сягоння даверу пяру,*
*Чым я жыў на гэтым свеце.*

*...Я жанчыну кахаў не адну,*
*Ды адной да скanання адданы.*
*Аддаваў я пашану віну,*
*Ды не ім, а каханнем быў п'яны.*

*А дзяцей як я моцна любіў,*
*Каб яны сваіх гэтак любілі.*
*Першы крок іх дасюль не забыў,*
*Каб апошні мой зоў не забылі.*

*Я ніколі не здрадзіў сябрам —*
*Усё ж прабачце за крыўду якую,*
*Аддадзім жа даніну грахам —*
*Хто без іх на зямлі правякуе?*

*Памінаючы сёння бацькоў,*
*Іх жыццё — гэта праца і праца,*
*Папрашу я вучоных дзядзькоў,*
*Каб не лезлі ў ім разбірацца.*

*...Кажу: "Дзякуй. О, дзякуй, жыццё!*
*Ты было, і ты ёсць, і ты будзеш.*
*Што ж, ідзі, што ж, прыходзь, небыццё,*
*Хоць таму, што ты душы ў нас будзіш".*

Проекты

## Новые автобусы. Белорусско-польские

*Скоро в Беларуси в свободной экономической зоне "Брест" будут выпускаться новые автобусы.*

С 23 по 24 ноября в Бресте пройдет выставка автобусов, которые производит польская фирма "Автосан", куда будут приглашены руководители Министерства транспорта и коммуникаций, главы администраций областных центров, специалисты автопредприятий и автоуправлений.

Автобусы фирмы "Автосан" городского, пригородного, междугородного и туристического назначения имеют современный дизайн, оснащены экологически безопасными двигателями "Евро-2" австрийской фирмы "Штейер". Их стоимость значительно ниже аналогов, выпускаемых в странах Западной Европы.

Малым предприятием "Тагис" совместно с польской фирмой "БУС-трединг" в свободной экономической зоне "Брест" уже зарегистрировано предприятие по производству таких автобусов. В настоящее время идет подготовка производства и проводится обучение персонала.

Польские партнеры готовы предоставить белорусским предприятиям автобусы в кредит или в лизинг с рассрочкой до трех лет.

**Анна ЗАЙЦЕВА.**

Вёска

## Адкуль цукар на нашым стале?

З буракоў сёлетняга ўраджаю будзе атрымана каля 135—140 тысяч тон цукру, ці прыкладна 40 працэнтаў ад гадавой патрэбнасці насельніцтва рэспублікі. Аб гэтым карэспандэнту БелТА паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання краіны. Прычым на айчыннай сыравіне беларускія цукровыя заводы працуюць каля трох месяцаў, а пасля перапрацоўваюць трысняговы цукар-сырэц, завезены з-за мяжы. Для поўнага ж самазабеспячэння цукрам у Беларусі неабходна вырошчваць каля 2,5 мільёна тон цукровых буракоў.

Цяпер у калгасах і саўгасах рэспублікі завяршаецца ўборка салодкіх караняплодаў. Ужо сабрана іх больш за мільен тон. Пры гэтым сярэдняя ўраджайнасць складае 254 цэнтнеры з гектара, а ў Гродзенскай вобласці — звыш 300 цэнтнераў.

Паводле слоў спецыялістаў Мінсельгасхарча, цукровых буракоў у Беларусі вырошчваюць каля 400 спецыялізаваных гаспадарак. Сярод іх выдзяляюцца высокімі ўраджаямі сельгаспрадпрыемствы Гродзенскага раёна. Сёлета рэкардсменамі сталі СКП "Кастрычнік" — 523 цэнтнеры з гектара, СКП "Абухава" і "Прагрэс" — звыш 450 цэнтнераў. Іх поспехі нельга растлумачыць вельмі ўжо спрыяльнымі прыродна-кліматычнымі ўмовамі — справа ў прымяненні прагрэсіўных тэхналогій.

**Дзмітрый ФЁДАРАЎ, БелТА.**

Взгляд из России

## Зачем Беларуси это объединение?

Возврата к прошлому нет. Невозможно возродить и Советский Союз. В интервью "Российской газете" премьер-министр Казахстана на прямой вопрос о вхождении в Союз Беларуси и России сказал, что Казахстан для этого не созрел. Словом, он не желает входить в новое государственное объединение. Не хотят в него и другие. Может вступить только горная Армения. Но она всегда была дотационной республикой.

Сколько раз я задаю себе вопрос и не могу найти ответа: почему Беларусь не может быть самостоятельным государством? Мне непонятно, почему не строить взаимоотношения между Беларусью и Россией по принципу отношений США и Канады? Там в выигрыше оказываются два самостоятельных, независимых государства.

Зачем обязательно создавать единое государство? Или, как предлагают некоторые пророссийские организации в Беларуси, "воссоединяться с Россией".

В Беларуси есть все условия, чтобы она была процветающей державой. А что даст ей объединение? Это не трудно спрогнозировать. Можно не сомневаться, что через несколько десятков лет в Беларуси будет проведен референдум с одним вопросом: "Считаете ли вы себя представителем великорусского этноса?" К этому времени будет ликвидировано все национальное: не будет ни языка, ни самобытной культуры белорусов. Можно прогнозировать, что ответ будет положительным. А если все-таки нет, то сработает формула товарища Сталина: "Не важно, как проголосовали, а важно, как подсчитали".

**Александр ПЕТРУННИКОВ.**
г.Мончегорск
Мурманская область.

Крымінал

## "Сталічную" разлівалі дома

Падпольны разлівачны пункт, які працаваў пад маркай Маскоўскага лікёрагарэлачнага завода, выявілі супрацоўнікі Першамайскага РАУС горада Бабруйска. У момант пагрузкі 150 бутэлек гарэлкі "Сталічная" і "Маскоўская асобая" былі затрыманы трое ліпавых прадпрымальнікаў. У прыватным доме, дзе яна выраблялася, канфіскавана дзвесце літраў спірту. Як паказала экспертыза, гэта гаручая вадкасць проста разбаўлялася вадой з-пад крана і разлівалася ў бутэлькі. Затым на іх наклейваліся этыкеткі вядомага расійскага прадпрыемства. Пры вобыску знойдзены запас такіх этыкетак, коркі для закаркоўвання, штампы і іншыя прыстасаванні. Фальшывыя "Сталічная" і "Маскоўская асобая" збываліся з рук на міні-рынках Бабруйска.

Гэта ўжо другі міні-завод па разліву фальшывай гарэлкі, выяўлены сёлета работнікамі Першамайскага РАУС. Акрамя таго, у дзвюх фіктыўных камерцыйных фірм канфіскавана 19 тон спірту на агульную суму каля аднаго мільярда рублёў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

Бабруйск.

